№ 8 жнівень 2012 г.

*О, Беларусь, мая шыпшына,*
*Зялёны ліст, чырвоны цвет!*
*У ветры дзікім не загінеш,*
*Чарнобылем не зарасцеш.*
***Ул. Дубоўка***

# Шыпшына

***Бюлетэнь Пастаўскай раённай арганізацыі***
***Таварыства беларускай мовы імя Францыска Скарыны***

---

**Ды сцвярджаю, што плод без зярняці – не плод,**
**І без мовы – насельніцтва мы, не народ.** *Уладзімір Паўлаў*

## *У НУМАРЫ:*













# НАШЫ НАВІНЫ

10-11 жніўня Пастаўшчыну наведаў вядомы беларускі пісьменнік Уладзімір Арлоў. Ён прыехаў у наш край са сваімі



сябрамі з Мінска і Полацка, каб адпачыць на ўлонні прыроды. Кожны год яны ўлетку выпраўляюцца на якую-небудзь выспу на адным з азёраў Беларусі. Сёлета абралі возера Світа, на якім ёсць тры сімпатычныя астраўкі. Вось адзін з іх і стаў на два дні сапраўдным беларускім вострававам, над якім лунаў бел-чырвона-белы сцяг.

Дарэчы, ва Уладзіміра Арлова нядаўна выйшлі ў свет дзве новыя кнігі, якія адразу выклікалі вялікую цікаўнасць чытачоў: "Вялікае Княства Літоўскае" і "Пакуль ляціць страла".

***

11-12 жніўня група сяброў пастаўскай раённай суполкі Таварыства беларускай мовы здзейсніла аўтавандроўку па Пастаўшчыне і Мядзельшчыне з мэтай наведвання мясцін, звязаных з жыццём і дзейнасцю народнага паэта Беларусі Максіма Танка. Пра тое, як яна адбывалася, можна даведацца з матэрыялаў, якія падаюцца ў гэтым нумары "Шыпшыны".

***

14 жніўня родныя, сябры і знаёмыя развіталіся са шчырай беларускай, былой настаўніцай Нінай Сцяпанаўнай Храпавіцкай, якая памерла ў Паставах і пахавана на Кашыцкім могільніку. Яна мела дзве вышэйшыя адукацыі – філалагічную і геаграфічную, усё жыццё адпрацавала ў школах Пастаўскага раёна, а найболей – у Манькавічах. Яна падтрымлівала сувязі і доўгі час вяла перапіску з паэтам Уладзімірам Дубоўкам, дапамагала ў правядзенні літаратурных семінараў "Даўжанскія вечары", якія ў 1996 і 1999 гадах ладзіліся ў вёсцы Дзеравянкі каля возера Доўжа. Ніна Сцяпанаўна была добрым і адкрытым чалавекам, і памяць пра яе доўга будзе жыць у сэрцах тых людзей, якія яе ведалі.

***

24 жніўня ў пастаўскім райвыканкаме адбылася сустрэча сяброў пастаўскай раённай арганізацыі ТБМ І. Пракаповіча, В. Шышко і Л. Сяменас з намеснікам старшыні райвыканкама Ю. Кісялёвым. У час размовы абмяркоўваўся стан беларускай мовы на Пастаўшчыне, разглядаліся магчымасці яе пашырэння ў розных сферах грамадства. Былі выказаны прапановы аб правядзенні "круглага стала" па моўным пытанні, павелічэнні эфірнага часу тэлепраграм на беларускай мове і пра мову тэлекампаніі "Паставы-TV", неабходнасці змен у падачы вонкавай візуальнай інфармацыі на вуліцах горада.



*Вадзім Шышко*

# НЕКАТОРЫЯ РАЗВАЖАНЬНІ ПРА ТОЕ, ШТО ЁСЬЦЬ

## Зварот да беларускамоўнай інтэлектуальнай эліты

Як кажуць псіхолагі, калі хочаш, каб чалавек з'ехаў з глузду, прымусь яго рабіць бяссэнсоўную працу. Уласьцівасьць нашай чалавечай псіхікі такая, што нам заўсёды патрэбна якое-небудзь тлумачэньне таму, што мы робім, чым бы мы ні займаліся. Бяз выключэньняў. У тым ліку і тое, што робіць нашая пастаўская суполка ТБМ – папулярызацыя ў грамадзтве (у прыватнасьці ў Пастаўскім) беларускай мовы.

Калі мы робім сваю працу, то вельмі важна кожнаму з нас разумець, навошта гэта нам патрэбна. Канешне, мы можам гэта рабіць, не задумваючыся аб тым, што робім. У нейкім сэнсе на рэлігійным узроўні. Бо веруючым таксама не патрэбны лагічныя доказы таго, у што яны вераць – ім дастаткова іх веры. Але калі чалавек прывык кіравацца ў сваім жыцьці лагічнымі разважаньнямі, а не сьляпой верай, то яму абавязкова патрэбны лагічныя абгрунтаваньні таго, што ён робіць. І нашае дзеяньне ў ТБМ не з'яўляецца выключэньнем.

Для цяперашняга звычайнага чалавека тое, што робім мы, выглядае калі ня ўвогуле глупствам, то, прынамсі, дзіцячым блюзьнерствам. Ды якая ўвогуле розьніца якой мы мовай карыстаемся? Расейскай, беларускай ці, мажліва ў будучым, ангельскай. Галоўнае, што нам ёсьць што есьці і няма вайны. Падыход вельмі цьвярозы і прагматычны. І вывучаць трэба тую мову, на якую сёньня ёсьць попыт. І калі гэта расейская мова, значыць, яе і трэба вучыць.

Калі глядзець на сёньняшнюю сітуацыю, цяпер і зараз, то такія людзі маюць рацыю. Але тым ня менш ТБМ і проста прыхільнікі беларускай мовы ўсё роўна існуюць і спрабуюць ня толькі захаваць, але і пашырыць выкарыстаньне беларускай мовы. Навошта? Калі для таго, каб здабыць кавалак кілбасы, на сёньняшні дзень дастаткова і расейскай.




Для таго, каб зразумець неабходнасьць беларускай мовы, трэба глядзець крыху ў далейшай перспектыве, чым цяпер і зараз. І трэба крыху паглыбіцца ў акадэмічныя веды. Адпаведна пірамідзе Маслоў патрабаваньняў чалавека, базавымі (а значыць, і самымі галоўнымі) з'яўляюцца фізіялагічныя патрабаваньні элементарнага выжываньня чалавека як біялагічнай істоты. Як бы гэта ні здавалася занадта празаічным, але мы павінны клапаціцца ў першую чаргу аб сваім целе, бо менавіта яно з'яўляецца носьбітам усіх нашых ідэй. Памірае нашае цела - і адразу ўсё-ўсё, што яго атачала падчас жыцьця, губляе свой сэнс. У тым

ліку і мова. Як казаў Пратагор: чалавек – мера ўсіх рэчаў. Таму ў першую чаргу мы павінны клапаціцца аб выжываньні нашага цела. І для таго каб забясьпечыць яго усім неабходным, што працягвае існаваньне нашага цела (паветра, сон, ежа, сэкс, вада, вопратка), на самой справе не мае вялікага значэньня тое, якой мовай мы карыстаемся.

*Абрахам Маслоў*



Мова, як і іншыя розныя ідэальныя каштоўнасьці, з'яўляецца патрабаваньнем вышэйшага ўзроўню, якое адпавядае ўжо чалавеку як істоце не біялагічнай, а разумнай. Таму, калі мы імкнёмся пашыраць беларускую мову, то мы павінны вызначыцца з двума пытаньнямі:

1. Ці забясьпечылі мы ўжо наша фізічнае існаваньне настолькі, каб маглі перайсьці да разьвіцьця нашых вышэйшых, ідэальных патрабаваньняў?

2. Пры ўмове, што мы перайшлі на вышэйшы ўзровень, то, калі мы хочам пашыраць беларускую мову, у чым павінен быць яе прыярытэт перад іншымі мовамі?

Калі паслухаць нашых беларусаў, то самае частае, што можна ад іх пачуць – гэта тое як цяжка жыць. Сто гадоў таму беларусы жылі па некалькі сямей у адной драўлянай халупіне з земляной падлогай, елі хлеб зь мякіны, у кожнай сям'і было мінімум дзяцей пяць. На самой справе нялёгка. Калі паглядзець на сёньняшні дзень: ужо амаль кожная сям'я жыве ў сваіх асобных дамах або кватэрах, максімум, што нараджаюць, два дзіцяці, прадуктовыя крамы ледзь не на кожным кроку з поўнымі паліцамі, і паколькі яны не зачыняюцца, значыць, людзі купляюць. Аўтамабіляў столькі, што на ўсіх стаянак не хапае. А як людзей не паслухаеш, жывуць дрэнна. Цікава, калі беларусы ўрэшце скажуць, што яны жывуць добра? Напэўна, калі ў кожнага беларуса будзе свой асабісты палац з лімузінам, а харчавацца будзе як той буржуй – ананасамі з рабчыкамі. І тое, ці хопіць яшчэ. Звычны аргумент беларусаў, што нармальны ўзровень жыцьця – гэта на Захадзе і да яго трэба імкнуцца. Што трэба імкнуцца, згодны. Але да чаго?Зноў узгадваем піраміду Маслоў, базавыя патрабаваньні для выжываньня чалавека:

Паветра – пакуль што, дзякуй богу, у нас яго хапае ўсім. Праўда, у буйных гарадах яно не вельмі чыстае, але ніхто не прымушае жыць у горадзе. Гэта асабістае жаданьне саміх людзей, таму і вінаваціць яны могуць толькі саміх сябе;

Сон – жыльля ў нас таксама хапае. Так, яно не заўсёды вельмі камфортнае, але ў сваёй большасьці спакойны сон забясьпечвае;

Ежа – як я ўжо казаў вышэй, прадуктовых крам у нас дастаткова. Выбар у іх вялікі і, прынамсі, ня хлеб зь мякіны. І так як яны не зачыняюцца, значыць, людзі ў іх купляюць дастаткова прадуктаў, каб уладальнік меў прыбытак з гэтай крамы. А калі купляюць, значыць ёсьць магчымасьць купляць. Калі ж каму не падабаюцца прадукты з крамы, маўляў, хімія і г.д., то кожны можа ўзяць сабе кавалак зямлі і вырошчваць на ім сваю экалагічна чыстую гародніну. Балазе, памешчыкаў у нас зараз няма і зямлі хапае для ўсіх;

Сэкс. У сувязі з тым, што ў нас ужо не традыцыйнае грамадзтва, дзе міжасабовыя адносіны строга рэгламентуюцца, а колькасьць мужчын і жанчын прыкладна аднолькавая, то знайсьці сабе партнёра для сэксу даволі лёгка;

Вада – тут можна нават не каментаваць. З улікам таго, колькі ў нас у

Беларусі запасаў прэснай вады, гэтае пытаньне жыцьцязабясьпячэньня чалавека ў нашай краіне здымаецца адразу;

Вопратка – сітуацыя нечым падобная як і зь ежай. Колькасьць крам з вопраткай пастаянна расьце. А адпаведна эканамічнаму закону, што попыт нараджае прапанову, можна зрабіць вывад, што колькасьць крам расьце таму, што людзі актыўна купляюць вопратку. А значыць, у людзей ёсьць магчымасьць яе купляць. Прычым купляюць не так як нашыя дзяды, якія набывалі сабе самае таннае і потым цягалі гэтую адзежыну, пакуль тая ўжо не развальвалася на плячах. Бо былі сапраўды бедныя. А цяпер? Як толькі мода зьмянілася, то ўсе адразу пабеглі ў краму за новай анучай. Не для таго каб захаваць сваё цела ад сьпёкі або холаду, для гэтага адзеньня ў гардэробе больш, чым трэба, а для таго, каб выпендрыцца перад астатнімі, маўляў, я не горшы за вас. Але, прабачце, калі чалавек ужо дазваляе сабе павыпендрывацца, то гэта кажа толькі аб тым, што ён забясьпечыў сваё выжываньне і цяпер ужо імкнецца да раскошы. А гэта ўжо выбэнды і ў такім выпадку жаліцца, што цяжка жыць, проста сьмешна.Так што, калі кіравацца пірамідай Маслоў, то базавыя патрабаваньні чалавека для біялагічнага выжываньня ў нас у Беларусі выкананыя. А калі нехта і скардзіцца, як яму цяжка жыць, то, хутчэй за ўсё, гэты чалавек проста не разумее таго, чым ён ужо валодае, а хочыць яшчэ больш. І гэта можна аднесьці да большасьці нашага насельніцтва. Ёсьць, канешне, выключэньні, людзі сапраўды бедныя, вельмі абмежаваныя ў базавых патрабаваньнях, але іх мала. Таму можна зрабіць вывад, што матэрыяльна беларусы добра забясьпечаныя для таго каб зьвярнуць сваю ўвагу на вышэйшыя, ідэальныя патрабаваньні, адным зь якіх з'яўляецца беларуская мова.

Ну добра. Першую адмазку звычайнага беларуса, што яму не хапае кілбасы, а мы тут з беларускай мовай да яго дакалупаліся, каб ён вывучаў і карыстаўся ёй, мы адмялі. Але тады звычайны прагматычны беларус паставіць новае пытаньне: а навошта яму гэтая беларуская мова, калі ён з такім жа (а можа, нават і большым) посьпехам зможа карыстацца любой іншай мовай, напрыклад, расейскай?

Гучыць крыху недарэчна, але пытаньне сапраўды такое: навошта беларусам беларуская мова? Тут адказаць складаней, таму што мова ўвогуле не з'яўляецца такім неабходным сродкам для выжываньня, як базавыя біялягічныя патрабаваньні. Калі есьці або спаць чалавек вымушаны, каб не памерці, то няведаньне мовы да сьмерці не вядзе. А значыць, каб чалавек яе вывучыў, патрэбныя нейкія іншыя стымулы, якія б былі не менш важныя, чым страх памерці. І так як мова адносіцца да вышэйшых, ідэальных каштоўнасьцей, то і зразумець яе неабходнасьць лягчэй людзям з высокім узроўнем інтэлекту.

Калі першае пытаньне мы можам паставіць перад кожным беларусам і даказаць, што іх нежаданьне інтэлектуальна разьвівацца на самой справе зьнітавана не зь іх матэрыяльным становішчам, а са звычайнай лянотай (паварушыць ськівіцамі, каб зьесьці кавалак кілбасы нашмат лягчэй, чым паварушыць мазгамі, каб нешта зразумець у гэтым жыцьці). То другое пытаньне датычыцца менавіта інтэлектуальнай эліты, людзей, якія зразумелі, што для жыцьцязабясьпячэньня свайго цела не патрэбна надта многа рэсурсаў матэрыяльных і разумовых. Перад імі стаіць новая задача: асабістае інтэлектуальнае разьвіцьцё для стварэньня нематэрыяльных каштоўнасьцей вышэйшага ўзроўню – духоўных. Але тут нас сустракае яшчэ адна цяжкасьць – выбар накірунку. А іх вялікае мноства. Сярод іх усіх наш ТБМ абраў накірунак пашырэньня ў беларускім грамадзтве беларускай мовы. Наколькі гэты наш выбар абгрунтаваны і патрэбны нашаму грамадзтву? ...

*(працяг у наступным нумары)*

***Шыпшына*** *на сайтах kamunikat.org і westki.info*

## ВАНДРОЎКА НА РАДЗІМУ ПАЭТА

### Да 100-годдзя з дня нараджэння Максіма Танка

Сёлета ў верасні будзе адзначацца 100-годдзе з дня нараджэння народнага паэта Беларусі Максіма Танка. Каб аддаць даніну памяці славутаму беларусу, майстру беларускага слова і амаль земляку, група сяброў пастаўскай раённай арганізацыі Таварыства беларускай мовы імя Францішка Скарыны нядаўна здзейсніла двухдзённую краязнаўчую аўтавандроўку па Мядзельшчыне з наведваннем мясцін, звязаных з жыццём і дзейнасцю творцы. У паездку на дзьвух машынах выправіліся людзі розных прафесій і заняткаў: пісьменнік, краязнаўца і настаўнік геаграфіі Ігар Пракаповіч, настаўніца англійскай мовы Наталля Пракаповіч, бібліятэкар Пастаўскай дзіцячай бібліятэкі Людміла Сяменас, навуковы супрацоўнік Пастаўскага краязнаўчага музея Вадзім Шышко, настаўнік гісторыі Гуцкай школы Мікалай Арэх, аператар Пастаўскага мэблевага цэнтра Андрэй Маляўка, студэнтка медыцынскага факультэтэта Карлава ўніверсітэта Вольга Пракаповіч, вучаніца 8-га класа Пастаўскай гімназіі Віялета Сяменас, а таксама пісьменнік, паэт-гумарыст з Мінска Янусь Малец. Маршрут вандроўкі пралягаў праз Вярэнькі, Чэхі, Кабыльнік, Мядзел, Пількаўшчыну, Сваткі, Брусы. Надвор'е было халаднаватае, але сустрэчы і ўражанні былі цёплыя. У Вярэньках удзельнікі вандроўкі наведалі аграсядзібу вядомага пастаўскага краязнаўцы і выдаўца Міхаіла Гіля, па якой сам гаспадар правёў невялічкую экскурсію. У Чэхах падарожнікаў чакала сустрэча з беларускім мастаком Алесем Цыркуновым, які вядомы не толькі сваімі мастацкімі творамі, але і няўрымслівай дзейнасцю па адраджэнні гістарычнай памяці і развіцці беларускай культуры праз аднаўленне і стварэнне помнікаў знакамітым асобам і падзеям. Менавіта дзякуючы яму на Пастаўшчыне ў вёсцы Каралінова ўзведзены адметны помнік на



*З мастаком Алесем Цыркуновым*



*Крыж у Чэхах*

магіле паўстанца Фларыяна Даноўскага, у вёсцы Радута ўсталявана высокамастацкая “каплічная брама”, на ўездзе ў вёску Чэхі пастаўлены значны па сваіх памерах і мастацкім выкананні



*Сядзіба Максіма Танка*

крыж да 2000-годдзя хрысціянства. Да таго ж, Алесь вельмі цікавы апавядальнік. Шмат новага даведаліся вандроўнікі падчас сустрэчы з мастаком і пра жывапіс, і пра творчасць, і пра краязнаўчыя росшукі, і пра агародніцтва з пчалярствам.

Наступным аб’ектам на шляху падарожнікаў было мястэчка Кабыльнік, якое зараз называецца вёскай Нарач. Там на мясцовых могілках агледзелі мемарыял загінуўшым у часы Першай сусветнай вайны і ўрачысты касцёл Андрэя Апостала, каля якога знаходзяцца скульптура Папы рымскага Іаана Паўла ІІ і памятны знак жаўнерам атрада “Кміціц” Арміі Краёвай, якія загінулі ў час ІІ сусветнай вайны.

Далей шлях пралягаў каля вялікіх беларускіх азёр Нарач, Мястра, Баторына. Краявіды, якія праплывалі перад вачыма, давалі падставы зноў і зноў захапляцца цудоўнай прыродай нашага краю. Невялікі прыпынак зрабілі перад горадам Мядзел, каб набраць гаючай вады з Віктосевай крынічкі.

У другой палове дня дабраліся да галоўнай мэты падарожжа – радзімы Максіма Танка. Як высветлілася, вёска Пількаўшчына і сёння даволі вялікае паселішча, але ў ім хаты паэта няма. Хоць ва ўсіх даведніках падаецца, што М. Танк нарадзіўся ў гэтай вёсцы, на самой справе яго родны дом знаходзіцца за тры кіламетры на хутары сярод лесу. Напэўна, прыйшлося б паблукаць, шукаючы паэтаву хату, але мясцовы хлапчук дакладна падказаў дарогу: “Да паварота направа, потым – да старой лесапілкі, і адтуль – у лес…”

Незадоўга да нашага прыезда ямы на лясной дарожцы былі засыпаны жвірам, а прысядзібныя палеткі і сад абкошаны. На



*Каля роднай хаты М. Танка*




хутары стаяць дзве жылыя хаты – “старая” і “новая” – і гаспадарчыя пабудовы. Вось у старой і нарадзіўся Яўген Скурко, які потым стаў вядомы пад псеўданімам Максім Танк. Пра гэта сведчыць адноўленая шыльда на сцяне хаты. Каля яе вандроўнікі і сфатаграфаваліся.

Унутры хаты захаваўся інтэр’ер тыповага беларускага жытла з печкай, драўляным ложкам, этажэркай з кнігамі, дыванкамі даматканымі. На сцяне вядомы партрэт Максіма Танка разам з матуляй. Прыгадваючы ўспаміны паэта з яго “Лісткоў календара”, у якіх ён апісвае побыт у бацькоў, з цяжкасцю ўяўлялі, як у адным параўнальна невялікім пакоі магла месціцца ўся вялікая сям’я і як маглі складацца вершы…

Вядома, што Максім Танк пажадаў, каб яго пахавалі на радзіме. Вясковыя могілкі знаходзяцца не ў Пількаўшчыне, а ў суседняй вёсцы Новікі, і здалёк прыцягваюць увагу двума высокімі чорнымі крыжамі, што пастаўлены на магіле паэта. Тут жа і пахаванні іншых прадстаўнікоў роду Скуркаў. Адметныя могілкі яшчэ і тым, што тут захавалася шмат магіл, на якіх замест крыжоў ляжаць валуны.

З Новікаў вандроўнікі адправіліся ў вёску Сваткі. Там спадзяваліся наведаць музейчык у мясцовай школе, але не атрымалася. У школе рамонт, музейная экспазіцыя перарабляецца.

Далей шлях ляжаў у Брусы, дзе ў вясковай хаце падарожнікі спыніліся, зладзілі сяброўскую вячэру з жартамі, цікавымі размовамі, беларускімі песнямі. Там жа і пераначавалі.

На наступны дзень наведалі Мядзельскую цэнтральную бібліятэку. Усе мелі магчымасць упэўніцца, што яна нездарма з’яўляецца адной з лепшых бібліятэк Міншчыны. Тут шмат матэрыялаў пра пісьменнікаў-землякоў і знакамітых асоб краю, выдатнае абслугоўванне, дасведчаныя спецыялісты. Да юбілею народнага паэта ў бібліятэцы падрыхтавана некалькі выстаў з матэрыяламі пра жыццёвы і творчы шлях песняра, выстаўлены яго кнігі. Мы атрымалі запрашэнне наведаць Мядзел 17 верасня – у гэты дзень адбудуцца вялікія мерапрыемствы па ўшанаванні памяці Максіма Танка.

***Ігар Пракаповіч***



*Шыпшына*
*Выданне Пастаўскай раённай арганізацыі Таварыства беларускай мовы імя Францыска Скарыны*

Адказны за нумар: Наталля Пракаповіч

Адрас: 211875, горад Паставы, вул. Паркавая, 52. Тэл.: 02155-4-44-75

Вёрстка: Ігар Пракаповіч

*Рэдакцыя можа не падзяляць думкі аўтараў друкаваных матэрыялаў*

*Надрукавана на абсталяванні сяброў, распаўсюджваецца дарма*

*Наклад 100 асобнікаў*